

# Наша Слова

*Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета*

(Выходзіць з сакавіка 1990 г.) **№ 13 (329)** 27 сакавіка — 3 красавіка 1997 г. Кошт -- 1500 рублёў



**А ШТО Ў КАЛЕНДАРЫ?** Стар.2.

**БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ ТАМАРЫ АНТАНОВІЧ** Стар.3.

**БАЛЮЧАЯ СТРЭМКА...** *З ДЗЁННІКАЎ МАКСІМА ТАНКА* Стар.4.

**TV** - *праграма* Стар.7.


## ПОСТУП ТЫДНЯ



●**Намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Уладзімір Русакевіч, выступаючы на старонках рэспубліканскага друку, сказаў:** "Захаванне ўзроўню бюджэтнага фінансавання ў галіне культуры (у 1996 годзе было выдзелена 264,6 мільярда рублёў з рэспубліканскага бюджэту, што складала 93,3 працэнта ад плана), намаганні мясцовых адміністрацый дазволілі затармазіць працэс скарачэння сеткі ўстаноў культуры ў большасці абласцей, хоць у 1996 годзе колькасць бібліятэк зменшылася на 72 адзінкі, закрылася 107 клубаў, з іх 90 — у Гарадзенскай вобласці. Цяпер у Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь знаходзіцца праект Указа Прэзідэнта "Аб мерах па дзяржаўнай падтрымцы творчых саюзаў". Гэта будзе вельмі важны і значны дакумент, якога чакае творчая інтэлігенцыя рэспублікі". Ці не пара ўжо праект Указа зрабіць рэальнасцю, пакуль не пазакрываліся апошнія клубы і бібліятэкі!

●***На Нацыянальным савеце па працоўных і сацыяльных пытаннях,*** *пасля даволі працяглых спрэчак, прафсаюзы ўсё ж пагадзіліся з прапановай урада павялічыць з 1 красавіка "мінімалку" да 150, а тарыфную стаўку 1 разраду — да 170 тысяч рублёў. Аднак канчатковае рашэнне па мінімальнай зарплаце яшчэ наперадзе — гэта кампетэнцыя Саўміна і Прэзідэнта.*

●**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі прайшла выстава "Беларуская кніга-96".** Выпускам літаратуры ў мінулы год займаліся, акрамя дзяржаўных выдавецтваў, больш за 100 розных арганізацый, і ў выніку пабачылі свет 3809 назваў кніг і брашур агульным накладам 59,1 мільёна асобнікаў. Дзяржаўныя выдавецтвы асноўную ўвагу ўдзялялі выпуску сацыяльна значнай літаратуры. Летась у серыі "Школьная бібліятэка" з 77 запланаваных кніг выйшла 72. А ўсяго юныя чытачы атрымалі за год 512 назваў кніг. На жаль, толькі 73 з іх выйшлі на беларускай мове.

●***У СНД пачалі ствараць адзіную адукацыйную прастору.*** *Першым крокам у гэтым напрамку стала арганізацыйнае пасяджэнне Савета на супрацоўніцтве ў галіне адукацыі дзяржаў-удзельніц СНД, якое адбылося ў Менску. Старшынём Савета быў выбраны міністр адукацыі Беларусі Васіль Стражаў.*

●**Сёлета Магілёву спаўняецца 730 гадоў.** Мяркуючы па ўсім, гарадскія ўлады вырашылі адзначыць гэтую дату на творчым уздыме. Упраўленне культуры гарвыканкама аб'явіла конкурс на лепшыя песню, верш і тэматычную карціну, прысвечаныя гораду-юбіляру. Імёны пераможцаў будуць аб'яўленыя ў канцы траўня ў час святочных урачыстасцяў.

●***У Маладзечне ў чацвёрты раз адбыўся тэатральны фестываль "Маладзечанская сакавіца".*** *Фестываль стаў своеасаблівым тэатральным аглядам перад чарговым з'ездам Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі, які пачаў сваю працу 26 сакавіка.*

●**Дзяржаўны народны акадэмічны хор Беларусі імя Г. Цітовіча адзначыў сваё 45-годдзе. Віншуем!**

●***У цэнтры Менска на праспекце Ф. Скарыны, 12 адкрылася*** *новая галерэя "Мастацтва" Беларускага Саюза мастакоў з прэзентацыяй выставы твораў акадэмікаў жывапісу і графікі грамадскай Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва.*

●**Гарадзенскі дзяржаўны універсітэт мае намер адкрыць свой філіял у Лідзе.** З гэтай нагоды ў Ліду прыязджала рабочая група з ГДУ на чале з рэктарам універсітэта Л. Ківачам.

**Падрыхтаваў В. Ш.**

## *БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ ЗВЕРНЕЦЦА ДА ГЕНЕРАЛЬНАГА ПРАКУРОРА*

На пасяджэнні рады Беларускай асацыяцыі журналістаў практычна цэнтральным пытаннем парадку дня стала абмеркаванне парушэнняў органамі аховы парадку права на свабоду слова (запісанае ў абедзвюх канстытуцыях) і захоп журналістаў у часе выканання імі сваіх службовых абавязкаў, таксама абароненых Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Выканаўчы дырэктар БАЖ Ігар Рынкевіч расказаў аб тым, як яго затрымалі, а потым судзілі нібыта за тое, што ён лаяўся матам, таптаў зялёныя насаджэнні і адначасова здымаў мітынг відэакамерай. Народ іранічны, журналісты пыталіся ў Рынкевіча, калі гэта ён навучыўся ўвогуле працаваць з відэакамерай і дзе яна потым падзелася. Жарты былі сумныя, бо ў раённым судзе ні тлумачэнні самога Рынкевіча, ні ягонай сведкі Вольгі Тарасевіч не былі ўзятыя пад увагу і журналіст быў аштрафаваны на 1 мільён 300 тысяч рублёў.

З парушэннем заканадаўства, адзначалася на пасяджэнні рады БАЖ, былі затрыманы пры выкананні сваіх абавязкаў шмат яшчэ якія журналісты. Іх груба хапалі і штурхалі ў спецаўтобусы і "варанкі". Журналіста газеты "Свободные новости плюс" Сяргея Маліноўскага ўвогуле затрымалі далёка ад месца маніфестацыі, калі той на супрацьлеглым ад месца акцыі баку плошчы Свабоды ветліва спытаўся ў міліцыянера, ці можна перайсці зараз вуліцу па пешаходным пераходзе. Сярод затрыманых апынуліся рэдактар аддзела інфармацыі "Белорусской газеты" Раман Якаўлеўскі, карэспандэнт агенцтва БелаПАН Генадзь Барбарыч, намеснік галоўнага рэдактара газеты "Имя" Ірына Халіп, фотакарэспандэнт "Народнай газеты" Сяргей Грыц, карэспандэнт радыё "Свабода" Алесь Хмяльніцкі, журналісты газеты "Свабода" Альгерд Невяроўскі, Гальяш Патаповіч і Алесь Дашчынскі, а таксама замежныя журналісты "Берлінскай студэнцкай газеты". Пералік затрыманых няпоўны. На радзе БАЖ прынятае рашэнне ад імя Беларускай асацыяцыі журналістаў звярнуцца да генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь з заклікам абараніць законныя правы журналістаў на бесперашкодны збор інфармацыі, прадугледжаныя Канстытуцыяй, і пачаць расследаванне выпадкаў судовай расправы над карэспандэнтамі.

На радзе абмеркаванае таксама пытанне аб практычным ажыццяўленні пастановы з'езда БАЖ па стварэнні Фонду абароны прэсы.

**Ул. Ас.**

## У Дзень Волі, у Вербную нядзелю

23 сакавіка ў часе святкавання 79-х угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі не было міру на вуліцах Менска. Нават на пляцоўцы Чырвонага Касцёла "людзі ў штацкім" хапалі моладзь, імкнучыся не дапусціць святочнага шэсця нацыянальна свядомых грамадзянаў. Тым не меней, неяк адразу ўзнікла шчыльная калона, над якой узвіліся бел-чырвона-белыя сцягі. Напады на дэманстрантаў пачаліся таксама адразу, а ля перакрыжавання праспекта Скарыны з вуліцай Казлова на іх ужо абрынулася мноства падраздзяленняў амапаўцаў з дубінкамі і газам. Людзей хапалі прама з тратуараў, білі і цягнулі ў "варанкі". Прычым з асаблівым імпэтам вялося "паляванне" на тых, хто размаўляў па-беларуску. Зноў пралілася кроў... Так быў адзначаны нацыянальны Дзень Волі, а з ім і святая Вербная нядзеля па каталіцкім абрадзе.

**Л. М.**

Удзельніца тэлефестывалю "Усе мы родам з дзяцінства" з г. Дуброўна дзесяцікласніца **Алеся Мянзуранка.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

*Уладзіслаў АСІНАВЕЦ*

## Развітальнае
### *(Песня пра Дзяды)*

Падаруй мне усмешку,
Калі пацалунак не можаш,
Пажадай у дарогу,
Хай не слепіць мне вочы туман.
Мне ісці ў тую далеч,
Адкуль халады і завеі,
Дзе ні болю, ні суму, | 2 разы
Дзе начуе груган.
І забудзеш — навекі
Цемра ночы схавае,
Супакояць мне сэрца
Ледзяныя абдымкі зімы,
Перашэпча яліна
Голас мой развітальны, | 2 разы
Вольны вецер развее
Мой апошні уздых.
А успомніш, паклічаш —
Сонца дрэвы абудзіць,
І на крылах надзеі
Прыляціць летуценне вясны.
І тады я вярнуся,
Вер, к табе я вярнуся, | 2 разы
Разам стаць на малітву,
Сцерагчы твае светлыя сны.
Сцерагчы твае светлыя сны...

*Грамадскі рух*

*Алесь АСТРОЎСКІ*

## ТБВШ у Гародні дзейнічае актыўна

### *Перадгісторыя*

Становіцца ўсё больш зразумелым, што беларусізацыя ўсёй сістэмы адукацыі залежыць у першую чаргу ад працэсу беларусізацыі **вышэйшай школы**. Гэта абумоўлена тым, што менавіта вышэйшая школа здольная стварыць прэстыж беларускай мове, неабходны для адпаведных зрухаў ва ўсёй сістэме адукацыі. Так, калі б усе ці большасць ВНУ былі беларускамоўнымі, навучанне дзяцей у пачатковай і сярэдняй школе па-беларуску перастала б быць праявай толькі патрыятызму бацькоў, на што здатныя далёка не ўсе з іх.

У спрыяльных умовах пачатку 90-х гадоў дамінавала меркаванне, што беларусізацыю трэба пачынаць з дзіцячых садкоў і першых класаў школ. Зараз мы з прыкрасцю назіраем, як хутка сённяшнімі чыноўнікамі разбураецца тое, што было зроблена на падставе такога падыходу.

У ВНУ, у адрозненне ад школ, працуюць больш незалежныя людзі. Значная частка з іх разумее ненармальнасць і нават шкоднасць для будучыні свайго народа такой сітуацыі, калі беларусаў у Беларусі даводзіцца навучаць на мове народа іншай краіны. Таму, нават у сённяшніх неспрыяльных абставінах, ва ўмовах адчувальнага адміністрацыйнага ціску, многія выкладчыкі ВНУ не дазваляюць прыніжаць уласную годнасць і працягваюць весці навучальны працэс па-беларуску. Аднак гэты людскі патэнцыял выкарыстоўваецца ўсё яшчэ недастаткова.

А між тым, выкладчыкі ВНУ, якія прыхільна ставяцца да беларускамоўнага навучання, маглі б быць аб'яднаныя ў грамадскую арганізацыю, здольную спецыялізавана, прафесійна і эфектыўна спрыяць вырашэнню асноўных праблем сённяшняй беларускай вышэйшай школы. Пры гэтым пераважнай большасці выкладчыкаў ВНУ — прадстаўнікоў такой арганізацыі, практычна нічога не даводзілася б рабіць за межамі сваёй кафедры. Нават проста ведучы заняткі, чытаючы лекцыі, пішучы дапаможную літаратуру, друкуючы вынікі навуковых доследаў (але робячы ўсё гэта па-беларуску), яны ўжо выконвалі б важнейшую сацыяльную функцыю. Дадаткова кожны выкладчык меў бы ўсё выгады ад падтрымкі з боку сваіх аднадумцаў, такіх жа выкладчыкаў ВНУ, як і ён.

Такім чынам, трэба сканцэнтраваць асноўную ўвагу на беларусізацыі вышэйшай адукацыі, бо і на сёння гэты накірунак нашай агульнай справы застаецца самым перспектыўным.

Другая праблема вышэйшай школы на Беларусі, актуальнасць якой будзе ўзрастаць па меры вырашэння першай, — пад'ём **узроўню адукацыі**. Зараз у нашых ВНУ працягваюць існаваць правілы, выгадныя толькі бюракратычнай сістэме, а дакладней, яе адукацыйнай галіне. Так, напрыклад, чаго вартая толькі такая з'ява, як прызначэнне рэктараў ВНУ адпаведнымі міністэрствамі? Ва ўсім цывілізаваным свеце рэктары абіраюцца калектывам адпаведнай установы ці яго прадстаўнікамі, дый яшчэ на строга абмежаваны тэрмін. А як чалавеку са здаровым сэнсам зразумець тое, што аб'ектыўныя паказчыкі эфектыўнасці працы супрацоўніка ВНУ могуць зусім не ўлічвацца адміністрацыяй і падпарадкаванымі ёй саветамі пры прызначэнні ці абранні таго ці іншага прэтэндэнта на кіраўнічую пасаду?

Ва ўмовах недахопу сродкаў, якія паступаюць сёння на адукацыю і навуку, розныя бюракратычныя механізмы яшчэ мацней, чым раней, тармозяць развіццё вышэйшай школы. Таму другой праблемай, якой павінна была б заняцца грамадская арганізацыя беларускамоўных выкладчыкаў ВНУ, — падвышэнне ўзроўню вышэйшай адукацыі ў нашай краіне. Трэба паспрабаваць стварыць альтэрнатыўную сістэму, якая б спрыяла развіццю вышэйшай школы, і прадэманстраваць яе эфектыўнасць і жыццёвасць. Хто, як не патрыятычна настроеныя выкладчыкі, здольныя да выканання такой працы?

### *Стварэнне ТБВШ*

Бясспрэчнасць усяго, што агаворана вышэй, была вядомая многім і прапагандавалася шмат гадоў. Але, нягледзячы на гэта, утварэння агульнарэспубліканскай арганізацыі з адпаведнымі функцыямі пакуль так і не адбылося. Таму, маючы на мэце вырашэнне пералічаных праблем у маштабах Гарадзеншчыны, а таксама стымуляванне (уласным прыкладам) адпаведных грамадскіх колаў на падобныя дзеянні ў маштабах усёй Беларусі, 25 студзеня 1996 г. на пасяджэнні Гарадзенскага аддзялення Таварыства беларускай мовы з выкладчыкаў трох ВНУ Гародні

(Заканчэнне на стар.2.)

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# ТБВШ У ГАРОДНІ ДЗЕЙНІЧАЕ АКТЫЎНА

*(Заканчэнне. Пачатак на стар.1.)*

(універсітэта, медінстытута, сельгасінстытута) было ўтворанае **Таварыства беларускай вышэйшай школы (ТБВШ).** Яго мэта сфармуляваная так: спрыянне развіццю вышэйшай адукацыі на Беларусі, як нацыянальнай па форме ды зместу і еўрапейскай па ўзроўні.

На першым арганізацыйным пасяджэнні была абраная Рада ТБВШ у складзе 5 чалавек (старшыня, намеснік і тры каардынатары па трох асноўных ВНУ Гародні); было прынятае рашэнне, што ТБВШ будзе філіяй Гарадзенскага ТБМ (праўда, на сёння, усвядоміўшы свае спецыфічныя задачы, большасць сяброў ТБВШ лічыць неабходным утварэнне асобнай грамадскай арганізацыі); было вырашана, што сябрам арганізацыі можа стаць любы супрацоўнік гарадзенскіх ВНУ, які вядзе заняткі ў студэнтаў і падзяляе мэты ТБВШ.

Першапачаткова ў склад арганізацыі ўвайшло каля 30 чалавек. Зараз у ТБВШ больш за 90 выкладчыкаў гарадзенскіх ВНУ. Да прадстаўнікоў трох асноўных ВНУ Гародні далучылася некалькі выкладчыкаў Інстытута ўдасканалення настаўнікаў.

### *Дзейнасць ТБВШ за першы год яго існавання*

У лютым 1996 г. за подпісамі 71-73 сяброў ТБВШ былі дасланыя звароты да Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі С. Г. Шарэцкага, міністра адукацыі і навукі Беларусі В. І. Стражава, старшыні Гарадзенскага аблвыканкама А. І. Дубко. Звароты ўтрымлівалі прапановы звярнуць увагу на неабходнасць паскарэння беларусізацыі ВНУ ў нашай краіне ў першую чаргу з-за таго, што з 2000 года чакаецца значны наплыў студэнтаў, якія скончаць беларускія школы. (Сп. В. І. Стражаву прапанавалі разгледзець магчымасць здачы ўступных экзаменаў ва ўсіх ВНУ Беларусі ўжо з 1996 г. абавязкова на дзвюх мовах — беларускай і расійскай, а таксама разгледзець пытанне аб магчымасці арганізацыі беларускамоўных плыняў ва ўсіх ВНУ Беларусі; а сп. А. І. Дубко прасілі разгледзець дадзеную праблему на пасяджэнні аблвыканкама і прыняць рашэнні, якія б спрыялі вяртанню да нармальнага стану ўсёй сістэмы адукацыі на Гарадзеншчыне).

Копіі зваротаў былі перададзеныя ў газеты "Звязда" і "Народная газета".

На нашыя звароты адгукнуліся Міністэрства адукацыі і навукі, а таксама аблвыканкам. Апошні паведамляў, што прапанаваў рэктарам "... прааналізаваць і дадаткова абмеркаваць ход беларусізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу ў вышэйшых навучальных установах з удзелам прафесарска-выкладчыцкага саставу, грамадскіх арганізацый і студэнцкага актыву". Пра тое, як канкрэтна адбывалася такое "абмеркаванне" ў ВНУ Гародні, трэба весці асобную і дастаткова непрыемную гаворку.

Міністэрства адукацыі і навукі ў асобе начальніка Галоўнага ўпраўлення вышэйшай адукацыі сп. Д. С. Даманеўскага сярод іншага паведамляла, што "... Міністэрства плануе вывучыць ступень забяспечанасці [ВНУ] беларускамоўнай літаратурай па ўсіх спецыяльнасцях, правесці конкурс падрыхтаваных беларускамоўных курсаў лекцый з мэтай далейшага выдання лепшых з іх, а таксама арганізаваць аўтарскія калектывы для напісання вучэбнай літаратуры па нераспрацаваных кірунках". Адказ датаваны красавіком 1996 г. Паколькі прайшоў амаль год часу, спрабуем даведацца, што з абяцанага зроблена.

У лютым жа 1996 г. сябры Рады ТБВШ звярнуліся да прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі сп. Л. М. Сушчэні з патрабаваннем спыніць ганебную дыскусію аб магчымасці пераводу часопіса "Весці АН Беларусі" на расійскую мову.

У канцы вясны 1996 г. сябры ТБВШ у колькасці каля 50 чалавек падпісаліся пад артыкулам, які заклікаў бацькоў аддаваць сваіх дзяцей у беларускамоўныя класы. Артыкул быў разасланы ў рэдакцыі газет: "Гродзенская праўда", "Пагоня", "Народная воля", "Звязда" і "Народная газета". Большасць з пералічаных газет яго надрукавалі.

Летам 1996 г. частка сяброў ТБВШ па заклiку кіраўнікоў гарадзенскага аддзялення ТБШ удзельнічалі ў агітацыі бацькоў першакласнікаў за беларускамоўнае навучанне.

Большасць выкладчыкаў, якія перайшлі на беларускамоўнае навучанне, ведае, што зараз асноўнай перашкодай для працэсу беларусізацыі вышэйшай адукацыі з'яўляюцца не студэнты і нават не адміністрацыі ВНУ, а адсутнасць беларускамоўных падручнікаў. У той жа час сёння выдзяляецца яўна недастаткова грошай на выданне якіх бы там ні было падручнікаў увогуле. Таму мы звярнуліся ў Беларускі фонд Сораса (падпісалася больш за 80 сяброў ТБВШ) з просьбай прадугледзець у праграме дзейнасці фонду пачынаючы з 1997 г. аб'яўленне конкурсу на стварэнне рукапісаў беларускамоўных дапаможнікаў і падручнікаў для вышэйшых навучальных устаноў Беларусі і падтрымаць гэтую дзейнасць грантамі.

Каб прадэманстраваць, што паляпшэнне працы супрацоўніка ВНУ можна чакаць у першую чаргу тады, калі ён будзе маральна і матэрыяльна заахвочвацца на падставе вынікаў аб'ектыўнай ацэнкі яго дзейнасці, мы апошнім часам звярнуліся да розных патэнцыйных грантадаўцаў, якія маглі б падтрымаць нашыя адпаведныя праекты.

Задача, якую мы збіраемся вырашаць у бліжэйшы час, — рэгістрацыя ТБВШ як самастойнай грамадскай арганізацыі.

г. Гародня.

**Ад рэдакцыі:** Выдатна, што выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў Гародні актыўна змагаюцца за беларусізацыю вышэйшай школы нашай краіны. Вось толькі варта яшчэ раз узважыць — ці на карысць агульнай справе драбніць агульны культурна-патрыятычны рух на некалькі аўтаномных плыняў. ТБМ, ТБШ, а цяпер і ТБВШ... Чаму так адбываецца і якім павінен быць аптымальны, найбольш дзейсны варыянт грамадскага руху ў падтрымку ўсталявання сапраўды нацыянальнай школы ў Беларусі — ад дзіцячых садкоў да універсітэтаў?

Спадзяёмся, гэта стане тэмай актыўнага абмеркавання на чарговым з'ездзе рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы 12 красавіка г.г.

*Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета*

НАША СЛОВА

*Our Word*
*Unser Wort*
*Naša Słowa*

**Падпісны індэкс 63865**

**ЗАСНАВАЛЬНІК: Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

Газета зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце Рэспублікі Беларусь па друку.
Рэгістрацыйнае пасведчанне **№ 83.**

***Рэдакцыйная калегія:***
Эрнэст ЯЛУГІН — **галоўны рэдактар**
Лявон БАРШЧЭЎСКІ,
Янка БРЫЛЬ,
Анатоль БУТЭВІЧ,
Радзім ГАРЭЦКІ,
Ніл ГІЛЕВІЧ,
Вольга КУЗЬМІЧ,
Уладзімір ЛАМЕКА,
Уладзімір ПАНАДА,
Зміцер САНЬКО,
Здзіслаў СІЦЬКА,
Алег ТРУСАЎ,
Генадзь ЦЫХУН.
**Адказны сакратар —** Уладзімір АНІСКОВІЧ.
**Кампутарны дызайн —** Ірына ДЗІВІНА.
**Кампутарны набор:** Тамара АЎСЯННІКАВА, Вера ВАРАНЦОВА.
**Тэхнічны рэдактар** Валянціна КАРАТКЕВІЧ.
**Карэктары:** Жанна КАЗЛОЎСКАЯ, Генадзь КАЖАМЯКІН.

**Адрас рэдакцыі: 220029, г. Менск, вул. Чычэрына, 1, 3-і паверх.**
**Тэлефон: 233-17-83.**

Кампутарнае забеспячэнне пры падтрымцы Беларускага аддзялення Фонду Сораса

***На радыё МТЗ***

# СОРАК ВЫПУСКАЎ "БЕЛАРУСКАГА КАЛЕНДАРА"

Невялічкі, але радасны юбілей адзначылі слухачы радыёпраграмы "Дзень МТЗ". Па заводскім радыё прагучаў саракавы выпуск "Беларускага календара". А пачалося ўсё з прапановы інжынера-тэхнолага аддзела галоўнага металурга прадпрыемства Іны Іосіфаўны Казлоўскай. Менавіта яна два гады таму падказала заводскаму радыё рыхтаваць матэрыялы аб падзеях на роднай Беларусі. Роднае слова на заводзе не забытае, яго цяпер заўсёды чакае шматтысячная аўдыторыя слухачоў.

"Беларускі каляндар" паведамляе аб гістарычных і памятных датах нашай краіны, яе знакамітых людзях. Так, напрыклад, з цікавасцю ўспрынялі трактаразаводцы матэрыял пра беларускага фальклярыста, этнографа і мовазнаўцу Адама Ягоравіча Багдановіча, бацьку нашага выдатнага паэта. Ён пражыў 78 гадоў і памёр у 1940 годзе, пакінуўшы грунтоўныя даследаванні, у тым ліку сшытак "Перажыткі старажытнага светасузірання беларусаў". Ён жа збіраў і перадаў у Акадэмію навук Беларусі рукапісы сына. Дарэчы, у сакавіку радыёпраграма "Дзень МТЗ" адзначыла 135-годдзе з дня нараджэння Адама Ягоравіча.

Прыемна, што ў "Беларускага календара" знайшліся шматлікія прыхільнікі. Вось прыклад. У адной з перадач я гаварыў аб 410-годдзі з таго дня, як беларускі горад Нясвіж атрымаў магдэбургскае права. Праз тыдзень у рэдакцыю прыйшло пісьмо ад рабочага механазборачнай вытворчасці Івана Скуратовіча з пытаннем: "Што такое магдэбургскае права?" Вядома, я задаволіў яго цікаўнасць. Яшчэ адзін прыклад. 6 лютага на нашым радыё было сказана аб тым, што 75 гадоў назад у Менску быў заснаваны Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт). А назаўтра патэлефанаваў у рэдакцыю слухач Дзмітрый Кавун. Ён папрасіў падрабязней расказаць пра гэтую ўстанову. Але што я мог зрабіць, калі сам, на жаль, нічога не ведаў аб значнай падзеі таго часу ў беларускай нацыянальнай гісторыі. Дзякуй Богу, дапамагла газета "Звязда", якую я выпісваю ўжо пяць гадоў. На яе старонках быў надрукаваны артыкул аб Інбелкульце. Трактаразаводцы даведаліся пра першага старшыню Інстытута беларускай культуры Сцяпана Міхайлавіча Некрашэвіча, пра ідэю беларускага нацыянальнага Адраджэння, якая ахоплівала ў тыя гады нашае грамадства ўсё глыбей і шырэй. Як вядома, у далейшым Інбелкульт быў рэарганізаваны ў Акадэмію навук, першым прэзідэнтам якой быў абраны У. Ігнатоўскі.

У канцы кожнай перадачы "Беларускага календара" даюцца звесткі пра прынятыя ў народзе імяніны, пасля чаго гучаць вясёлыя беларускія мелодыі. Апошнім разам яны былі сугучныя з вершаванымі радкамі, якія з нагоды юбілею даслалі на заводскае радыё слухачы прэсавага цэха:

*Сорак сходжана сцежак —*
*сорак сцежак жыцця*
*Зорку "Беларускага календара"*
*Не накрые век хмара —*
*Хай купаецца ў хвалях нашага*
*пачуцця.*

**Алег ПРАЦЬКО,**
**карэспандэнт радыёпраграмы "Дзень МТЗ",**
**вядучы "Беларускага календара".**

***З нагоды***

## *Серыял "Хроніка злачынстваў" — гэта не "Санта-Барбара"!..*

"Рэгіянальная газета", якая выдаецца ў Маладзечне і абслугоўвае інфармацыяй вялікі рэгіён Меншчыны і Гарадзеншчыны, напрыканцы сакавіка святкуе свой адмысловы юбілей з нагоды выпуску сотага нумара.

Незалежнае прыватнае перыядычнае выданне за два з невялікім гады, карыстаючы выключна беларускае слова, не збіваючыся ні на "тарашкевіцу", ні на расійскую мову, даказала, што і ў пэўнай аддаленасці ад сталіцы можна, па-першае, існаваць самастойна, а па-другое — не губляць пры ўсім тым, нацыянальнага аблічча.

Наш карэспандэнт **Алесь Мікалайчанка** гэтымі днямі сустрэўся з галоўным рэдактарам "Рэгіянальнай газеты", лаўрэатам Міжнароднай прэміі Беларускай асацыяцыі журналістаў Аляксандрам Манцэвічам. Атрымалася шчырая размова пра газету, журналістыку і ўвогуле месца нашай прафесіі ў грамадскім жыцці краіны.

**— Шаноўны спадар Аляксандр, перш-наперш, па даручэнні працоўнага калектыву газеты "Наша слова" віншую супрацоўнікаў "Рэгіянальнай газеты" з выпускам сотага нумара. Жадаю, каб ваша выданне сустрэла, як мінімум, 1000-ны выпуск.**

— Дзякую. Нашая ўдзячнасць — "Нашаму слову", якое прапагандуе лепшыя матэрыялы "Рэгіянальнай" пад рубрыкай "У газетах".

**— Мне здаецца, што "Рэгіянальная газета" цягам выпуску гэтых ста нумароў, так бы мовіць, набірала запас трываласці, набывала свой адметны твар. Ты і твае калегі яскрава паказалі: пры старанні, прафесійным падыходзе да газетнай справы беларускамоўнае выданне можа разлічваць на поспех у чытачоў і рэкламадаўцаў.**

— Мяркую, веданне адметнасцяў нашага чытача, які любіць усё сваё — тую ж беларускую мову. Любіць свой панадворак і гаспадарку, каб з усялякай жыўнасцю, каб з добрай сядзібай — агародам і каб яшчэ якімсьці рамяством займацца — гарбарствам, пляценнем, чаканкай, вязаннем, вышыўкай, ткацтвам, нават ганчарнай справай. Нашы чытачы любяць свой рэгіён, ведаюць або жадаюць ведаць яго гісторыю, яго адметных людзей. А гэта і Кіт, і Кахановскі, і Агінскі, і Ермаловіч — пералік з веку ў век можна доўжыць і доўжыць. Нашыя чытачы — добрыя вернікі: каталікі, праваслаўныя, пратэстанты... Карацей, выходзячы з гэтых адметных рысаў, мы і стварылі "Рэгіянальку", як ласкава называем мы сваё "дзіцятка". Назва простая, але прыжылася.

**— Калі ўжо нашая гаворка зайшла пра адметнасць "Рэгіянальнай газеты", то мне, напрыклад, імпануе яе "нейтральная" інтанацыя ў пераказе той або іншай інфармацыі. У той жа час газета выказвае і сваю пазіцыю...**

— "Дражніць гусей", як гаворыцца, — гэта не наш стыль. Калі, напрыклад, пасля травеньскага рэферэндуму 1995 года ў Беларусі пачаўся ўціск на беларускую мову і гістарычную сімволіку, мы з гэтай нагоды ніякіх каментараў не давалі. Проста знайшлі факты, якія трэба было данесці да чытачоў. Першы — паведамілі аб правале гэтага плебісцыту ў Маладзечне. Другі — пра тое, як некалькі дзён нейкія патрыёты пасля рэферэндуму вывешвалі над будынкам гарвыканкама ў Маладзечне бел-чырвона-белы сцяг. Трэці — наконт адноснай трываласці роднага слова ў сістэме маладзечанскай школьнай адукацыі. Асабліва — у беларускай гімназіі, куды і сёння прымаюць толькі па конкурсе. А крычаць, што нехта там злы, дурны і не паважае беларускі народ — справа бесперспектыўная. Хай лепей ён жа сам спакойна прааналізуе факты, якія маюць месца ў жыцці незалежна ад нечага асабістага жадання...

**— У гэтым рэчышчы, мусіць, можна лічыць і ўвод пастаяннай рубрыкі на другой паласе "Сведчаць дакументы". Хроніка злачынстваў. 1939 — 1941"?**

— Так. Газета зацікавілася лёсам палітзняволеных, якія да пачатку вайны гітлераўскай Германіі з Савецкім Саюзам утрымліваліся ў Вілейскай турме НКУС БССР, а потым з пачаткам баявых дзеянняў былі дэпартаваныя на ўсход. Пешкі — па дарозе Вілейка — Зембін — Барысаў. І чыгункай — з Барысава ў Разань. Па дарозе ў Барысаў, а перад тым — у двары турмы чэкісты шмат каго расстралялі са сваіх "падапечных". Архівы на гэты конт былі для нас зачыненыя. Тое-сёе з "рэчдокаў" мелася ў Вілейскім гісторыка-краязнаўчым музеі. Астатняе, як гаворыцца, — памяць людская. А пад час творчай камандзіроўкі ў Польшчу мне пашэнціла набыць некалькі кніжак розных польскіх даследнікаў сталінісцкіх рэпрэсій на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1939 — 1941 гады. У тым ліку — матэрыялы, якія тычыліся лёсу вілейскіх палітзняволеных ды іхніх расстрэлаў на "дарозе смерці" ад Вілейкі да Барысава.

Публікацыю калонкі "Хроніка злачынстваў. 1939 — 1941" мы распачалі менавіта з друкавання матэрыялаў пра знішчэнне вязняў Вілейскай турмы ў першыя дні Вялікай Айчыннай у двары вязніцы і на згаданай дарозе. А цяперака вось ужо колькі месяцаў публікуем спіс асуджаных Асобнай нарадай у 1940 годзе па УНКУС колішняй Вілейскай вобласці. Ужо абнародавалі 1370 прозвішчаў рэпрэсаваных землякоў. Чытачы гэта заўважылі.

А што лепей прачытае чалавек: мае журналісцкія ўражанні ад дакумента ці сам дакумент? Зразумела — дакумент! Бо чытач, асабліва маладзечанскі, вілейскі, ашмянскі ды астравецкі — любіць усё ставіць пад сумнеў. Асабліва — журналісцкую "лірыку". А раптам газетчык збрахаў? Дакумент жа, фотаздымак — іншая справа.

**— Такім чынам, на дакументальнай аснове газета змагаецца з гістарычным бяспамяцтвам?..**

— Сёння мала голай прапаганды на гэты конт. Павінны быць больш пераканаўчыя сродкі ўздзеяння на свядомасць чытача, на ягонае выхаванне як беларуса, як носьбіта гістарычнай памяці свайго народа, носьбіта нацыянальных духоўных каштоўнасцяў, а я асабіста да іх адношу рэлігію, культуру і мову як сродак набыцця такіх каштоўнасцяў. Але мы даволі жорстка ставімся да адбору фактаў дзеля публікацыі. Тут ужо — наша права, каб пэўным адборам матэрыялу стварыць аблічча выдання і прыцягваць да газеты чытачоў.

**— На сённяшні дзень прыкладна на тысячу паасобнікаў зменшыўся тыраж "Рэгіянальнай"...**

— Па-першае, таму, што крыху паднялі кошт газеты, бо яна цяпер стала выходзіць у адрозненне ад першых нумароў на васьмі старонках "раённага" фармату (А-3) — раней выпускалася на чатырох. Але мы ўпэўнены — гэтыя страты тыражу часовыя: Яны абавязкова абернуцца трывалымі набыткамі... Мы верым у свайго чытача.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

*Да канца свайго жыцця Максім Танк, акрамя выдатных вершаў, пісаў яшчэ і, што называецца, "у стол" — вёў дзённік. Пачатак яго публікацыі ў вераснёўскім нумары "Полымя" за леташні год выклікаў значную цікавасць прыхільнікаў адметнага таленту народнага паэта. Мяркую, не трэба асабліва даказваць, наколькі думкі Максіма Танка актуальныя і сёння, і як патрэбна ўсім нам — ад рабочага да прэзідэнта краіны — да іх прыслухацца!*

*Ніжэй падаюцца фрагменты з "Дзённіка", якія цалкам плануе апублікаваць часопіс "Полымя".*

**Падрыхтаваў Вячаслаў РАГОЙША, доктар філалагічных навук, прафесар.**

*Згадкі*

# Балючая стрэмка ў сэрцы беларуса

## З "Дзённікаў" Максіма Танка пасляваеннага часу

Памыляецца нямецкі мовазнаўца Аўгуст Шляйхер, што мова, нават адарванай ад штодзённага жыцця, можа жыць. Але гэтаму пярэчаць факты. Зараз наша беларуская мова, жывыя крыніцы якой перакрыты іншамоўнай школай, прэсай, радыё, прапагандай і міграцыяй, — усё больш і больш адступае перад экспансіямі суседніх дзяржаўных моў, губляе свае пазіцыі і знікае. І гэта — у той час, калі вызваляюцца народы ад імперыялістычнага прыгнёту і адраджаюць сваю мову і культуру. А ў нас многіх і сёння абвіняюць у нацыяналізме, тады, калі стан беларускай мовы і культуры не можа не насцярожваць. Карабель, якога ватэрлінія на вачах ідзе ўглыб, патанае. А мы — "дзеці набата" (Рэнэ Шар) — маўчым (2.2.1954).

Адпісаў на пісьмо настаўніка А. М. Белакоза. Райфо не дазваляе школам выпісваць беларускія часопісы, газеты і падпісвацца на беларускую энцыклапедыю. Што за ідыёцтва! А потым абвіняюць нас, што падае колькасць падпісчыкаў на беларускія выданні (10.9.1968).

Мо памыляюся, але мне здаецца, што ў нашым інтэлектуальным жыцці зараз поўны застой. У развіцці сусветнай культуры нельга не ўлічваць культур нават самых малых народаў. І нельга вырашаць такія складаныя праблемы толькі пры дапамозе галасавання. Тут патрэбен і розум, якога нам часта не хапае. Так, напрыклад, кожны народ лічыць, што яго мова самая прыгожая. А я, помню, чытаў у нейкім польскім даўнім часопісе, што на парыжскім конкурсе моў эстонская заняла першае месца (20.3.1969).

Рана прачнуўся і пайшоў у лес. Мокра. Золка. Горш такой непагадзі пачала дакучаць і арытмія. Зноў вярнуўся ў палату і ўзяўся за свой даклад. Думаю больш грунтоўна спыніцца на непрыглядным становішчы з беларускай мовай і нахабнай моладзі. Ва ўсіх нас балючай стрэмкай у сэрцы сядзіць лёс роднай мовы. Пытанне гэта мяне непакоіць даўно, яшчэ з тых год, калі пачаў пісаць свае вершы і калі гэтыя вершы ў многіх выклікалі здзіўленне: — Глядзіце, ён піша на беларускай мове! Відаць, каб на кітайскай — усё было б нармальна (6.4.1970).

Прачытаў заўвагі М. Лужаніна аб мове. Артыкул цікавы. Толькі не з усімі яго заўвагамі можна пагадзіцца. Эталонам ён лічыць мову пісьменнікаў 30-х гадоў і зусім мала ўдзяляе ўвагі мове такіх сучасных майстроў, як Я. Брыль, І. Мележ, Я. Скрыган, І. Чыгрынаў, Б. Сачанка, І. Пташнікаў... Ды ніводзін выдатны пісьменнік не ўкладваўся ў пракрустава ложа сінтаксічных, этымалагічных нарматываў (6.8.1977).

Зноў атрымаў некалькі анкет. У адной з іх пытае аўтар: "Як гляджу на беларускую мову?". Я не спецыяліст, не вучоны. Мову сваю вывучаў за плугам і касой, у бацькоўскай хаце, на кірмашах, на фэстах, на вяселлях і хрэсьбінах, на бясконцых сваіх вандроўках па родным краю. Да мовы падыходзіў з эмацыянальнай стараны, з слухавой, з зрокавай. І таму магу толькі сказаць, як пісьменнік, што яе люблю. І хоць у роспачы за сённяшні яе стан, веру ў яе будучыню (21.11.1979).

Ю. Хапалаеў прыслаў вялікую падборку маіх вершаў, перакладзеных ім на лакскую мову і надрукаваных у часопісе "Дустыну". Калі ўлічыць, што на лакскай мове гаворыць крыху больш 50 тысяч чалавек, дык нельга не здзівіцца, што тыраж часопіса — 2350 экз. Вось як людзі ўмеюць даражыць сваёй роднай мовай! А мы, пры дзесяці мільёнах насельніцтва рэспублікі, топчамся на месцы са сваімі мізэрнымі тыражамі беларускіх газет і часопісаў (4.3.1984).

Зараз, калі менш і менш ужываецца ў быту беларуская мова, слоўнікі, якія ў нас выдаюцца, нагадваюць помнікі на пагосце, якія зарастаюць травой забыцця. Гаварыў аб гэтым у ЦК, І. І. Антановіч раіць схадзіць да Слюнькова, бо нельга пусціць на самацёк выкладанне ў школах беларускай мовы, што адбіваецца і на тыражах нашых кніг, часопісаў, газет. Страта культуры любога народа — страта агульная. Трэба схадзіць... Хоць я ўжо зняверыўся ў выніках гэтага хаджэння па муках (1.5.1986).

Выклікалі ў ЦК на абмеркаванне калектыўнага пісьма, у якім яго аўтары патрабуюць выкладання ў школах беларускай мовы (29. 7.1987).

Не ведаю, як будзе з нашай мовай. Трэба, каб на ёй загаварылі ўсё, а не толькі пісьменнікі. Каб яна чуваць была ў штодзённым жыцці, бо асіміляцыя, як ракавыя метастазы. Пранікла, закранула самыя глыбінныя яе словатворчыя народныя слаі (1.1.1988).

Вярнуўшыся з Масквы, адразу пайшоў на сустрэчу з гарадскім актывам. Пачуўшы, што я выступаю на беларускай мове, зал пачаў мяне спыняць апладысментамі. Чаго можна чакаць ад такога партактыву? Прыкрае ўражанне засталося ў мяне ад гэтай сустрэчы. Самі забылі і народ адвучылі гаварыць на сваёй мове (5.7.1988).

А ў нас катастрафічнае становішча з беларускай мовай. Усе нашы галашэнні на гэту тэму нікога не цікавяць. Неабходна, каб наша мова стала дзяржаўнай і гэта было ўзаконена ва ўсіх установах, у штодзённым жыцці (30.7.1988).

Аж не хочацца браць у рукі сённяшнія газеты. Трэба так засмеціць мову: мэрыя, стрэс, бестсэлер, трэнд, сэраль, мэнэджэр, спонсер, шоу, кемпінг, брыфінг, ланч, тэлефакс... Чамусьці ў нас вельмі ахвотна пераймаюць з Захаду не самае лепшае (7.5.1990).

Зараз усе ў нас пішуць хвалебныя оды роднай мове. Шкада толькі, што мала вершаў арыгінальных. Зараз наша мова, якая доўгі час была і ў загоне, і ў прыгоне, патрабуе грунтоўнай рэстаўрацыі і ачышчэння ад розных непатрэбных запазычанасцяў (28.10.1993).

У самы адраджэнскі разгар нейкі Іван Бяздомны прыслаў мне, украўшы з шаркаўскай бібліятэкі, мой зборнік ("Мой хлеб надзённы") з надпісам: "Больно и стыдно за наш народ, который пичкают вот такими шедеврами. Обидно за поэзию, которую вы оскверняете. Впрочем, такие стихи может писать человек, принявший такой псевдоним. Взял бы "Горький", да уже был такой писатель". Перапісваю гэту цытату чалавека, які ратуе за беларускую мову, але сам ёю не валодае (14.8.1994).

Званіла А. Ціхановіч (супрацоўніца "Звязды". — **В. Р.**), каб выказаўся ў іх газеце аб выкладанні беларускай мовы ў брэсцкіх школах, бо многія бацькі пішуць заявы, у якіх патрабуюць выкладання на рускай мове. Чорт ведае што робіцца! (17.10.1994).

Перачытваю прэсу. Не заўважаем, як усё больш пачынаем патанаць у без ніякай патрэбы запазычаных вульгарызмах і агрэсіўных амерыканізмах (28.10.1994).

*У суседзяў*

# "Рускія албанцы" Расію не разумеюць

Грамадзянская вайна ў Албаніі прымусіла шмат каго тэрмінова шукаць прытулку за мяжой. Суседняя Італія так насычана ўцекачамі, што ўжо адмаўляецца прымаць іх хаця б часова. Асабліва падвяргаюцца небяспецы асобы, якія калісьці прыехалі з іншых краін, і нават дзеці ад змешаных шлюбаў, у першую чаргу з рускімі, як у Албаніі называюць усіх выхадцаў з СССР. Цяпер "рускія", якія захавалі расійскае грамадзянства, і іхнія няпаўналетнія дзеці папрасілі прытулку ў Расіі. Некалькі такіх груп туды прыехалі. Размаўляюць усе з прыкметным акцэнтам, а некаторыя расійскую толькі разумеюць, паведамляюць журналісты.

Ды галоўнае не ў гэтым. "Падобна, "албанцы", піша карэспандэнт "Известий", маюць меркаванне аб Расіі, куды яны прыехалі і дзе збіраюцца жыць, па расказах сваіх састарэлых родзічаў, свядомасць якіх у свой час была апрацавана савецкай прапагандай. Таму праблемы сённяшняй Расіі ім здаюцца невытлумачальнымі. "Жанчыны дзівяцца, — піша журналіст, — Расія такая вялікая і багатая, няўжо нам не могуць дапамагчы?" Размовы пра тое, што Расія ўжо даўно не багатая, што ў нас няма лішніх кватэр і грошай, затое многа ўласных уцекачоў з гарачых кропак, выклікаюць у іх пачуццё здзіўлення..."

Крыху патрымаўшы "албанцаў" пад Масквой у прыстойным пансіянаце, іх накіроўваюць далей, у Цвярскую вобласць, дзе шмат каму не знойдзецца нават прыстойнай працы і жылля.

**Л. М.**

*Замежжа*

# Зніклае з Парыжа шукайце ў Маскве

Ёсць рэчы, гаварыць пра якія не прынята. Да апошняга часу ў вачах французскага ўрада ў лік падобных рэчаў траплялі каштоўнасці, нарабаваныя нямецкай арміяй у музеях Францыі пад час Другой сусветнай вайны і бясследна зніклыя па яе сканчэнні. Дзе знаходзяцца іх нацыянальныя скарбы, французы здагадваліся, але да апошняга часу аб гэтым маўчалі.

Аднак нядаўна блізкая да ўрада газета "Le Figaro" змясціла артыкул, які прыцягнуў да сябе вялікую ўвагу грамадскасці. Тэму артыкулу даў закон, прыняты 5 лютага сёлета расійскай Думай. Закон абвяшчае ўсе культурныя каштоўнасці, перавезеныя ў СССР у час Другой сусветнай вайны, кампенсацыяй за страты, нанесеныя расійскай культурнай спадчыне, незалежна ад таго, чыёй уласнасцю ёсць гэтыя рэчы і пры якіх абставінах яны былі здабытыя.

Адразу па сканчэнні вайны спіс зніклых у час нямецкай акупацыі Францыі культурных каштоўнасцяў быў перададзены з Парыжа ў Маскву, дзе ў Пушкінскім музеі захоўваліся самыя выдатныя з іх. Аднак дырэктарка музея, якой "Le Figaro" прысвяціла нарыс "Жалезная жанчына з Пушкінскага", да апошняга часу сцвярджала: яна не ведае, што захоўваецца ў падвалах музея, і нічога не аддасць. І гэта — нягледзячы на тое, што калісьці трафеі прымала яна сама.

Газета нагадвае: прыняты ў Расіі закон мае агітацыйны характар, ён супярэчыць міжнароднаму праву і абавязкам, падпісаным Расіяй у апошнія гады. З прыняцця яго вынікае неабходнасць выхаду Расіі з Рады Еўропы.

І сапраўды, не трэба быць юрыстам, каб здагадацца: нельга ўзаконьваць перахаванне крадзенага — бо менавіта гэтак трэба трактаваць прысваенне Расіяй каштоўнасцяў, калісьці нарабаваных у Францыі гітлераўскай арміяй.

Нечаканую, хаця і сціплую падтрымку Францыі нядаўна аказала Германія. Сябра расійскага прэзідэнта нямецкі канцлер Коль пад час свайго візіту ў Маскву падараваў Ельцыну CD-ROM — лазерны дыск да кампутара — з падрабязным вопісам расійскіх культурных каштоўнасцяў, якія заходнія саюзнікі СССР па сканчэнні вайны вярнулі ў Маскву. Выглядае, аднак, на тое, што ніхто ў расійскай Думе яго не бачыў.

# Карыснасць мяжы

На пачатку гэтага года сабакі маленькага латышскага гарадка Ікла, што на мяжы з Эстоніяй, выказалі нязвыклую цікаўнасць да кавалка зямлі на сумежжы. Іхнія гаспадары падзяліліся гэтай навіною з памежнай вартай, службоўцамі якой неўзабаве была знойдзеная добра прыхаваная пластыкавая труба дыяметрам 20 міліметраў. Пачыналася яна ў адрыне мясцовага жыхара, пабудаванай паблізу мяжы, а даведацца, дзе тая сканчваецца, не ўдалося — праз трыста метраў труба пад зямлёю перасякала дзяржаўную мяжу Латвіі. Эстонскія пагранічнікі, атрымаўшы запыт сваіх латвійскіх калегаў, высветлілі: труба сканчваецца праз чатырнаццаць метраў на ўскраіне памежнага эстонскага мястэчка.

Хто і як карыстаўся трубаправодам, здагадацца было няцяжка, ведаючы, што цана гарэлкі ў Эстоніі на 60% вышэй, чым у Латвіі, а гаспадар адрыны яшчэ да атрымання Латвіяй незалежнасці займаўся кантрабандай.

З правозу гарэлкі праз латвійска-эстонскую мяжу корміцца мноства грамадзянаў абедзвюх краінаў: адну-дзве бутэлькі вязе практычна кожны, а шафёры імкнуцца прыхаваць у машынах цэлыя скрынкі забароненага тавару.

Ці патрэбная мяжа паміж братнімі балтыцкімі дзяржавамі? Падобнае апытанне сярод жыхароў Іклы не праводзілася. Магчыма таму, што і без таго вядома: кожны з іх адказаў бы "так".

*Замежжа*

# Парыжская настальгія

Сёлета ў Парыжы адкрылася новая выстава, арганізатары якой здолелі ўразіць нават жыхароў французскай сталіцы, якіх мала ўражвае Луўр.

Уздоўж сценаў падземнага гаража, што ў квартале Монпарнас, стаяць манекены ў савецкай вайсковай форме. Паўсюль вісяць чырвоныя вымпелы з сярпамі, малаткамі і словамі пашаны да пераможцаў сацыялістычнага спаборніцтва. На стэндах ляжаць старыя часопісы краінаў савецкага блока і іх узнагароды — ад зоркі Героя Савецкага Саюза да афганскага ордэна Сонца і румынскага — "24 жніўня". Наведаўшы выставу, знаёмы з савецкай рэчаіснасцю карэспандэнт газеты "Le Figaro" заўважыў: гэткай колькасці ўзнагародаў не змясцілі б нават грудзі ўсіх генеральных сакратароў КПСС адначасова.

Галоўныя экспанаты выставы — машыны. "ЗІЛы" балгарына Тодара Жыўкава і прэзідэнта Манголіі (літары нумара апошняга складаюцца ў абрэвіятуру KGB), "Чайка" першага камуніста Венгрыі Янаша Кадара. На заднім сядзенні "Татры" сядзіць манекен Іва Мантана — той у свой час іграў адпаведную ролю ў нейкім фільме. Побач — прывезеныя таксама з Чэхіі кавалак сцяны з надпісам "на "татрах" начальнікі ездзяць адны". Ёсць экспанаты і больш простыя — "Победа", "Масквіч" ды нямецкі "Трабант".

Апошнім часам у Францыі назіраецца ўздым цікаўнасці да савецкай атрыбутыкі. Гэта стала прычынаю таго, што на рэкламах спажывецкіх і харчовых тавараў ды нават на этыкетках трункаў зазіхацелі профілі Маркса, Мао, Сталіна ды вядомае ўсяму свету расійскае слова з трох літараў — КГБ.

Ці толькі жаданнем пазнаёміцца з усходнееўрапейскай экзотыкай выклікана цікаўнасць парыжан да СССР? "Не толькі", — адказваюць на гэтае пытанне сацыёлагі. Не так ужо мала французаў праз блізкі да камуністаў прафсаюз SJT у дзяцінстве пабывала па той бок "жалезнай заслоны" — у піянерскіх лагерах Венгрыі, Балгарыі, Румыніі, СССР. У іх душах, як і ў душах мільёнаў нашых суайчыннікаў, дагэтуль жывуць настальгічныя ўспаміны пра перадавыя заводы і калгасы ды пра бясплатнае харчаванне ў "Артэку".

# Свабода альбо смерць?

Нядаўна на лётным полі лонданскага аэрапорта Хітроў службаю аховы быў затрыманы чалавек, які бясклапотна шпацыраваў па пасадачнай пляцоўцы. Як неўзабаве высветлілі паліцыянты, гэты пасажыр рэйса з Індыі не проста гуляў, а выйшаў пагрэцца. Чаму? Бо апошнія дзесяць гадзінаў ён прабыў не ў салоне "Боінга-747", а ў яго адсеку для шасі. У час палёту на вышыні некалькіх кіламетраў і хуткасці 600 кіламетраў на гадзіну тэмпература ў негерметычным адсеку апускалася да мінус 60 градусаў Цэльсія, а цёплага адзення незвычайны пасажыр не меў. Як аказалася, безбілетнікаў у цесным адсеку было двое, аднак умоваў падарожжа адзін з іх не вытрываў — пасля пасадкі яго абледзянелы труп вываліўся на бетон аэрадрома.

Чаму не загінуў Падзіп Сінгх — так звалі безбілетнага пасажыра, — застаецца загадкай для брытанскіх медыкаў. З лётнага поля яго адвезлі ў шпіталь, дзе аказалі першую дапамогу, якая, чакалі лекары, акажацца апошняй. Гэтак не адбылося, аднак іхні пацыент перажыў двайны шок — не толькі ад холаду, але і ад паведамлення, што ён належыць да катэгорыі нелегальных імігрантаў і мае быць дэпартаваны.

Першае, што зрабіў па выхадзе з шпіталю Падзіп Сінгх — жадаючы застацца ў краіне, падаў апеляцыю ў брытанскую службу іміграцыі. Яго намаганні падтрымаў нават адзін з дэпутатаў брытанскага парламента, які ўважае: чалавек, які, каб пакінуць радзіму, рызыкуе жыццём, мае прычыны шукаць прытулку.

**Падрыхтаваў У.П.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

